Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# НАПЕРАД!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопіс.

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацы
Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў
ад 9 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты:
год—7 зл., за паўгоду—
3 50 гр., за 3 мес.—2 зл.,
зл. за 1 мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 19 лютага 1930 г. №. 8

## Бюджэтныя крэдыты на беларускую асьвету.

Мусім сягоньня адзначыць нябывалы йшчэ ў гісторыі польскага парлямантарызму факт: Сойм на пленарным паседжаньні сваім—пры трэцім і апошнім чытаньні бюджэту—уставіў у лік выдатковых пазыцыяў 200.000 зл. на заканчэньне будовы гмаху беларускае гімназіі і бурсы ў Наваградку, 150.000 зл. на курсы дзеля выкваліфікаваньня вучыцялёў для беларускіх пачатковых школаў, 100.000 зл. на беларускую вучыцельскую сэмінарыю і 50.000 зл. на друкаваньне беларускіх падручнікаў.

Праўда, бюджэт у цэласьці пойдзе йшчэ ў Сэнат і там гэтыя пазыцыі лёгка могуць быць адкінены... Дык цешыцца з іх яшчэ крыху рана. Рана й з другое прычыны: міністар фінансаў п. Матушэўскі ў сваей бюджэтнай прамове заявіў, што тыя выдаткі, адносна да якіх урад зьвязаны дадзенымі загадзя з'абавязаньнямі, мусяць быць зроблены незалежна ад таго, як на іх гляне Сойм; але тыя, на якія няма з'абавязаньняў, урад будзе рабіць у залежнасьці ад таго, ці будуць грошы, здавальняючы перад усім патрэбы, якія ўважацьме за найпільнейшыя. Тасуючы гэту заяву п. Матушэўскага і да асыгновак на беларускія культурныя справы, трэба сказаць, што здаваленьне культурных патрэб беларускага народу не канэшне мае быць прызнана ўрадам за справу пільную,—тым балей, што выдаткі гэтыя павінны іцьці праз міністэрства асьветы, галава якога, пан Чэрвіньскі, даволі ярка выявіў ужо сваю больш чым няпрыхільнасьць да беларусаў... Дык калі-б міністар асьветы запраўды шчыра хацеў зрушыць з мёртвага пункту беларускую асьветную справу, дык ён сам-бы парупіўся ўставіць у бюджэт адпаведныя пазыцыі на гэткія неабходныя для нас установы, і дабівацца іх праз Сойм беларусы самі ня мелі-бы патрэбы...

Паўтараем: ад пастановы Сойму да зьдзейсьненьня яе—яшчэ даволі далёка... Але самы факт, што ў Сойме знайшлася большасьць галасоў, патрэбная дзеля правядзеньня гэных паўмільёна злотых, якія зьяўляюцца толькі кропляй у моры нашых культурна-асьветных (ня кажучы аб эканамічных) патрэб,—мы-б хацелі разглядаць, як зьявішча сымптаматычнае. Мо' ўрэшце польскае грамадзянства запраўды зразумее, што дасюляшняя польская палітыка ў адносінах да беларусаў—збанкрутавала, што мірнае сужыцьцё з беларусамі ніколі ня будзе дасягнена тымі хмарамі асаднікаў, паліцыянтаў і „канфідэнтаў", якімі заліты нашы вёскі і на ўтрыманьне якіх ідуць мільёны злотых—бяз ніякіх позытыўных вынікаў. Можа ўрэшце і ўрад—пад націскам грамадзянства—пачне выпаўняць у адносінэх да беларусаў тыя свае павіннасьці, якія прадугледжаны і польскай канстытуцыяй, і міжнародавымі трактатамі аб „меншасьцях"...

Ці будзе гэтак запраўды, пакажа блізкая ўжо будучына. Але асоба міністра асьветы, праз рукі якога пойдуць соймавыя крэдыты (—калі іх ня скіне Сэнат!), нічога добрага нам ня суліць: то-ж просьбы Беларускага Вучыцельскага Саюзу аб дазвол на адкрыцьце прыватнае беларускае вучыцельскае сэмінарыі і дапаўняючых вучыцельскіх курсаў усё яшчэ недзе ждуць на свой чарод у ўрадавых канцэлярыях...

## „Калгасы" ў БССР.

З кожным новым нумарам „Сав. Беларусі", які да нас даходзе, мы пераконываемся, што акцыя „калектывізацыі" сельскае гаспадаркі праводзіцца памысна толькі на паперы, а на дзеле—справа стаіць куды горш. Разгром сялянскіх гаспадарак ідзе пад лёзунгам „барацьбы з кулацтвам", як з клясай. Але ня трудна пераканацца, што ў лічбу „кулакоў" аднесены ўсе тыя сяляне, якія за час хутарызацыі здолелі высака падняць стан сваіх гаспадарак і ня толькі выплачываць усе падаткі і цяжары грашмі ды хлебам, але і для сябе нешта мець. Вось, чаму ўсюды—у кожнай вёсцы беларускай—аказалася нейкая магутная, нязвычайна чысьленая „кулацкая" кляса, хаця ведама, што Беларусь заўсёды цярпела ад малазямельля, і запраўдныя „кулакі" былі рэдкім зьявішчам. „Кулакоў" масамі высяляюць з вёсак, каб не перашкаджалі ў калектывізаваньні вёскі. Але і гэта не памагае: гэны „кулак" (прасьцей—селянін-гаспадар, які ня хоча калгасаў!) ёсьць усюды, яго зьвясьці не ўдаецца! І вось, як піша ўся прэса ў Польшчы, процi гэтых „кулакоў" Сталін пасылае 100 тысячаў чырвонаармейцаў (на ўвесь СССР), каб... пад пагрозай штыхоў заганяць сялян у калгасы...

Пераглядаючы нумар за нумарам „Сав. Беларусі", бачым, што сялянства беларускае не паддаецца казённай акцыі. Бо-ж, апрача папяровых пастановаў, улада мала што можа даць калгасам. У перадавіцы ў № 16 „Сав. Беларусі" чытаем адкрытае прызнаньне, што стаўка на трактары—правалілася: „поўная замена коннага інвэнтару інвэнтаром машыннай цягі ня можа быць выканана ў бліжэйшы час". Казённая акцыя „не знайшла належнага падтрыманьня" і з боку... „спэцыялістаў сельскае гаспадаркі—каморнікаў і аграномаў". Урэшце—не хапае грошы на правядзеньне „плянэтарнай" зямельнай рэформы: замест прадбачаных сьпярша 270 мільёнаў рублёў аказваецца патрэбнай для ўсяго СССР сума поўмільярда руб. Гэтых грошы ўрад ня мае і зьбіраецца „сабраць" іх з насяленьня. Дык ня дзіва, што тая-ж „Сав. Беларусь" піша: „Работа... па арганізацыі вытворчасьці ў калгасах у значнай меры адстае ад тэмпу самой калектывізацыі". Прасьцей: на паперы ўсё робіцца гладка, на дзеле—зусім іншае...

„У справе падрыхтоўкі да сяўбы пануе па-вольнасьць на мясцох. Замест ударнай і баявой работы—гаварыльня і спасыланьне на „аб'ектыўныя" умовы. Стварэньне насенных фондаў ідзе вельмі марудна. Пляны сяўбы яшчэ не даведзены да саўгасу, калгасу і бядняцка-серадняцкага двара".—Так характэрызуе „Сав. Бел." агульны стан работы (гл. № 19 18 з 24.I 30). А вось інфармацыі з паасобных акругаў паводле тэй-жа „Сав. Белар.":

У **Аршаншчыне** з зярном на пасеў блага. Гатункавага аўсу прыгатавана 78% патрэбнае колькасьці; ячменю звычайнага—61%, а гатункавага—замест 448 тонн—„не завезена дагэтуль ніводнага кілё"... Угнаеньняў на акругу трэба было падрыхтаваць 2,537 тонн, ёсьць „нарад" на 170 тонн (значыць. на 6,6%), але на дзеле „ў акругу дагэтуль не паступіла ніводнага кілё ўгнаеньняў"... Тое ж—з машынамі. Наагул—„справы ня вельмі добрыя, і пахваліцца няма чым". Але найгорш—тое, што **на мясцох няма навет плянаў працы!**

У **Бабруйшчыне** ўзьнімаецца—„пагроза зрываў"! Падрыхтоўка да пасеву „ідзе слаба". Дагэтуль ачышчана толькі 7% пасяўнога матэрыялу. На 10-ае студзеня на калгасах абагульнена толькі 5 тысяч цэнтнараў насеньня, а трэба—31 тысяча! Камітэты сялянскае ўзаемадапамогі замест 10.000 цэнтнараў маюць каля 2.000 пудоў насеннага фонду... „Нехапае зерняачышчальных машын".

У **Полаччыне**—„спакойны" сон. „Падрыхтоўчая работа да вясновай сяўбы ў Вульскім раёне зрываецца". „Насенных фондаў у раёне яшчэ няма". „Навет большасьць колгасаў ня мае такіх фондаў". „У раён не паступіла яшчэ ніводнага кілё насеньня"...,

Якое-ж дзіва, што навет пад самым Менскам, у Самахвалавіцкім раёне, як чытаем у № 19 „Сав. Бел.", навет „**беднота і сярэднякі** адчуваюць сябе няцьвёрда, хістаюцца, і ёсьць шэраг выпадкаў **выхаду групамі з калгасаў**". Газэта падае рад выпадкаў, дзе групы выйшаўшых з калгасаў беднякоў і сярэднякоў дасягаюць 25% усяго ліку сяброў калгасаў.

Мы падаем усе гэтыя сумныя факты, бо — пры тых варунках, у якіх адбываецца **прымусовая** калектывізацыя сельскае гаспадаркі,—прыходзіцца прадбачыць проста **катастрафальныя** для сялянства і навет работнікаў **вынікі сталінаўскае рэформы**. Ня дзіва, што Сталін шлець у вёскі 100.000 чырвонаармейцаў, ня лічачы многіх тысячаў работніцкіх „брыгад", якія мусяць... вучыць сялян гаспадарыць пановаму!

## Апошні карнавал.

Also die ganze Angelegenheit ist darin, der Pöbel soll sich endlich auslernen das zu nehmen, was ihm notwendig ist.
Max Stirner.

Хто ты, няклі̆каны? Хто ты, няпрошаны?
Чорны, галодны, сьмярдзючы й дзікі...
— Я йду на баль! Мой каптан праўда, зношаны;
Косьці ў нагах танцам гора падкошаны...
Сьмейся, паяц!.. Гаспадар—дый няпрошаны!
І запазьніўся на цэлы вякі...
Вы ўжо змарыліся, я скончу вясельле
Новым і вамі нядуманым скокам:
Грай-жа музыка, грай у прахмельле,
Я іх шукаў, даганяў рок за рокам;
Часта здалёку іх бачыў—з-за крат...
Грай-жа брат!
А я станцую „Пролетарыят"...
Дзе вы радзіліся, ночы няспаныя,
Посныя, потныя, рыжыя дні,
Грудзі сухотныя і застагнаныя,
Вочы распалены ў злосны вагні...
Годзе задушаных рабскіх стагнаньняў,
Годзе бядноту на вуліцах біць,
Годзе касьцельных „пеклам" пужаньняў,
Годзе галодных малітвай карміць!
Я йду раўняці „культурныя" горы,
Я йду аддаці ўсё вам назад,
Чым вы кармілі мяне учора:
Я йду плаціць вам за сьлёзы й гора...
Я тут няклікаңы, я тут няпрошаны;
Чорны, галодны, сьмярдзючы й дзікі:
Я йду на баль!.. Мой каптан, праўда. зношаны,
Косьці ў нагах танцам гора падкошаны...
Сьмейся, паяц!.. Гаспадар—дый няпрошаны,
І запазьніўся на цэлы вякі...
Вы ўжо змарылісь, я скончу вясельле
Новым і вамі нядуманым скокам!
Грай-жа музыка, грай у прахмельле,
Я іх шукаў, даганяў рок за рокам;
Часта здалёку іх бачыў—з-за крат...
Грай-жа брат!
А я станцую „Пролетарыят"...

Фр. Грышкевіч.

Прага Чэская. 17.I· 1929.

## Лясная палітыка СССР.

Аб'яднаныя нямецкія лясныя прамыслоўцы зьвярнуліся да ўраду Нямеччыны з рэзкім пратэстам процi спосабаў радавага ляснога гандлю. „Радавы ўрад, кажа пратэст, дзеля павялічэньня вывазу лясных матэрыялаў з СССР і захвату ўсіх заходня-эўрапэйскіх рынкаў, прадае вырабы сваей лясной прамысловасьці яўна ніжэй сабе кошту. Для радавых гаспадарчых арганізацыяў ня існуюць ніякія абрахаваньні зыску. Такая экспортная палітыка СССР пагражае вялізарнымі стратамі нямецкай нацыянальнай гаспадарцы". Нямецкія прамыслоўцы трэбуюць, каб нямецкі ўрад учыніў адпаведныя крокі процi гэтай „нягоднай канкурэнцыі СССР".

Не ўваходзячы тутака ў разгляд гэтае справы, напомнім, што сучасны фінансава-гаспадарчы крызіс у Польшчы выклікаңы ў вельмі значнай меры тым, што радавы лес і лён забіў амаль не цалком лясны і ільняны вываз Польшчы, які зьяўляецца падставай усяго яе гандлёвага балянсу... Самі палякі сьцьвярджаюць, што радавыя лясныя і ільняныя вырабы лепшыя за польскія, а да таго-ж і пушчаны — (ведама, з мэтай забіць канкурэнта!) — напалову таней, як польскія. А за гэтую таннасьць радавых вырабаў на замежным рынку галавой дакладваюць радавыя работнікі і спажыўцы.

# З Радавае Беларусі.

### На культурна-нацыянальным фроньце.

Барацьба з беларускімі культурна-нацыянальнымі дзеячамі ў БССР ня спыняецца. Маскоўскі нацыяналізм, абнаглеўшы пасьля першых ударах па найвыдатнейшых камуністах-беларусах—Цішку Гартным, Чарвякову, якія, як добрыя партыйцы, мусілі падпісаць прадыктаванае ім „пакаяньне“,—вядзе далейшы паход проці тых культурных установаў, дзе кіраўнічая роля яшчэ асталася ў руках беларусаў, а не насланых у БССР маскалёў. Чарговы ўдар ськіваваны проці кіраўніка Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, заслужонага дзеяча на беларускай ніве, грам. Шыпілы. Першы „брэх“ на яго, ведама-ж, зьмешчаны ў масквафільскай „Звездe“—у сувязі з толькі што адбытым абходам пяцігодзьдзя істнаваньня Б. Дз. В-ва. „Звезда“ (гл. нумар з 31.I. 1930) б'ець па Шыпіле за тое, што ён не падтрымаў зьвягі сталінаўскіх лякаёў на тварцоў беларускага нацыянальнага адраджэньня, якіх перасьледуе і кляйміць камуністычная партыя галоўным чынам за тое, што яны, а ня партыя, распачалі беларускі адраджэнскі рух і прымусілі ўрэшце і партыю пайсьці на паважныя ўступкі гэтаму руху.

Сьледам за зьвяглівай стацьцёй „Звезды“ заварушылася і „не дагледзіўшая“ ўсіх „памылак“ кіраўніцтва Б. Дз. В-ва—партыйная ячэйка ў тым-ж Выдавецтве. „Начальства“ прыказала,—вось і б'юць па тых людзёх, з якімі самі ў поўнай згодзе пяць гадоў працавалі, ажно пакуль не павеяў „новы дух“, яўна варожы беларусам, з Масквы. Вось рэзалюцыя бюро ячэйкі кам. партыі ў Бел. Дзярж. Выдавецтве:

> Бюро ячэйкі лічыць, што сьвяткаваньне пятых угодкаў Белдзяржвыдавецтва ў Менску, дзякуючы адсутнасьці якой бы там ня было ўвязкі проці кіраўніцтва Белдзяржвыдавецтва ў прыгатове ўгодкаў з райкомам КП(б)Б, профсаюзамі і бюро ячэі фактычна палітычна змазана, прайшло міма шырокае масы работнікаў. Ня было ўвязана ў належнай ступені з лёзунгам—уся КП(б)Б—на чале культурнага будаўніцтва.
>
> Як папярэдняя прыгатова, так і правядзеньне ўрачыстага паседжаньня ў Доме Культуры мела рад асобных заганаў, што ў сваёй усеагульнасьці даюць глебу рабіць вывады аб аб'ектыўным перарастаньні гэтых заганаў у палітычныя абмылкі.
>
> Уступное слова заг. Белдзяржвыдавецтвам тав. Шыпілы мела слабы палітычны зьмест, у прыватнасьці недаволі было падчыркнена значэньне пралетарскае літаратуры, ні слова ня было сказана аб барацьбе з нацыянал-шавінізмам і недаволі былі падчыркнены тыя вялізарныя палітычныя абмылкі, каторыя былі ў выдавецкай дзейнасьці Б. Дз. В. У ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, у мамэнт калі беларускі шавінізм зьяўляецца найбольш небясьпечным на даным этапе,—яшчэ больш выразна падчыркуецца палітычная сутнасьць зробленых абмылак.
>
> Пры мастацкім афармленьні сцэны выпаў палітычны сэнс мастацкага афармленьня, у прыватнасьці ня было сьцягаў, бюсту Леніна, лёзунгаў аб барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам і г. д.
>
> На сцэне адсутнічаў партрэт Леніна. Пры складаньні прэзыдыуму ня было ўключана бюро менскага акругкому КП(б)В. Сябра бюро АК КП(б)Б тав. Цэнцыпер быў уключаны ў склад Прэзыдыуму толькі пасьля адумысловага прыпамінаньня тав. Шыпіле ўжо ў часе паседжаньня.
>
> Разьмяркаваньне білетаў і стварэньне пралетарскае грамадзкае думкі вакол урачыстага паседжаньня было праведзена нездаваляюча, у выніку чаго, ня гледзячы на папярэдняе разьмеркаваньне ў друкарні 400 білетаў, у надзвычайна невялікай колькасьці былі прадастаўлены работнікам, асабліва работнікам—друкаром, а ў той-жа час былі асобы, каторыя выключаны з апарату Б. Дз. В., напрыклад Ільючонак і інш.
>
> Бюро ячэі констатуе, што бязумоўна, ня гледзячы на надзвычайную перагружанасьць, у сувязі з прыгатоваю да чысткі, віна за палітычныя абмылкі ўскладаецца разам з фракцыяй Б. Дз. В. на бюро ячэйкі Б. Дз. В.
>
> „Зьвязда“ 31.I-30.

### Камэдыя з „беларусізацыяй“.

Выкідаючы вон з усіх установаў беларускія культурныя сілы, маскоўскія нацыяналісты дзеля віду ладзяць розныя мерапрыемствы, нібы то ськіваваныя да шырокае беларусізацыі жыцьця БССР. Але-ж гэтая „баявая“ задача на дзеле ніяк ня можа быць праведзена, бо... няма каму правадзіць яе! Як выглядае, да прыкладу, „беларусізацыя“ мэдычнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, аб гэтым найлепш гаворыць стацьця нейкага студэнта, надрукаваная ў № 18 „Сав. Беларусі“ з 21 студзеня с. г. Перадрукоўваем яе даслоўна:

> „Беларусізацыя на мэдфаку БДУ яшчэ дагэтуль застаецца быць „казённай“. Толькі на сходах і на пасяджэньнях ды і то не заўсёды студэнты выказваюцца па-беларуску. Як толькі парадак дню гэтага пасяджэньня скончыўся, вы ўжо рэдка пачуеце беларускае слова.
>
> Вось сумныя факты. Прафэсар на лекцыі выклікае студэнта, які пачынае адказваць па расейску. Прафэсар напамінае студэнту аб тым, што трэба адказваць па беларуску. Студэнт працягвае адказваць па расейску. І прафэсару прыходзіцца яшчэ раз патрабаваць ад студэнта адказаў на беларускай мове. Тое самае мы наглядаем і пры здачы залікаў.
>
> Такія адносіны некаторай часткі студэнства мэдфаку да беларусізацыі, такое неразуменьне (ці нежаданьне разумець) значэньня беларусізацыі з боку студэнта недапушчальны. **Партыйная арганізацыя і прафком мэдфаку ня прымаюць адпаведных рашучых мерапрыемстваў, каб прасунуць беларусізацыю ў студэнскую масу.**
>
> На мэдфаку няма ніводнага гуртка беларусазнаўства, існаваньне якога жыцьцё патрабуе. Вельмі часта яшчэ студэнты свае „гісторыі хваробы“ пішуць па расейску, а потым турбуюцца над перакладам на беларускую мову.
>
> Патрэбен каранны перелом у справе беларусізацыі на мэдфаку і прыняцьця адпаведных мер да тых, якія ўхіляюцца ад яе.
>
> Калі дзяржаўныя экзамэны на мэдфаку мяркуецца **адмяніць**, дык ні ў якім разе нельга адмовіцца ад экзаменаў па грамадазнаўству і беларусазнаўству“.

Так яно дзеецца, бадай, і ў іншых галінах жыцьця: няма каму правадзіць беларусізацыю, бо беларусаў зусюль вон гоняць і замяняюць... маскалямі!

## „Бацькаўшчына — мой Сыон“.

### (З вастрожных настрояў).

Цягнік хутка імкне. Абапал чугункі раўніна з параскіданымі на ёй маёнткамі і хутарамі. Усюды—шосы і дарогі, саджаныя ясенем, грабам, а часта яблынямі, грушамі і вішнямі. Шырокія, даўгія палосы раньлі, пакрытыя буйнай зелянінаю—пшаніцы, жыта і ярыны. Цэлыя абшары бурачаныя.

Мястэчкі—што гарады. Праведзена элекрычнасьць, вуліцы выбрукаваны цясаным каменьнем. Чыстасьць і парадак. Станцыі, што 4—5 кілямэтраў, выглядаюць лялькамі. На кожнай з іх—павозчыкі ў калясках, часам відаць і карэткі. Аўты—рэч паўсёдная. Усюды пануе сыстэматычнасьць і рэгулярнасьць. А ўсё яшчэ больш упрыгожвае зяляніна. Мора зяляніны і красак, на кожным кроку вабячых вока.

А дзе Ты, мая Бацькаўшчына, з сваімі пагоркамі, узгор'ямі, лагчынамі, балотамі, зарасьнякамі, прагалінамі? Дзе мае мілыя вёскі—з саламянымі стрэхамі, часам—пахіліўшайся, уехаўшай у зямлю і просячай ратунку ў Бога і людзей,—будоўлямі? Дзе—у паўвярсты шырокія—гасьцінцы з прысадамі магутных, памятаючых шмат стагодзьдзяў, разложыстых бяроз аў? Дзе зыгзаватыя дарогі і пуцявіны? Дзе вузенькія палоскі з беднаквольмі ўсходамі? Дзе той таёмны шопат стройных, пагудыстых бароў, у нетрах каторых яшчэ жыве чароўная байка пра лясуноў, нячысьцікаў і русалак? Дзе тая, песьцячая вока, лагодная сінь вазёр і рэчак?

Вось—Стшалкова, Вжэсьня, элеганцкая—з панурым Гогэнцолернаўскім палацам—Познань і... Вронкі. Вронкі—з „палацам“, ад якога вее нейкім сярэднявечам. Чырвоныя, сумныя, маўклівыя муры. Гэтак і чакаеш—выйдзе зараз рыцар, закуты ў старавечную зброю. Высокая касьцельная вежа з шэрым стромкім дахам, на якім віднеецца, выкладаны чырвонаю чарапіцаю, крыж,—пануе над „палацам“ з матавымі закратаванымі вокнамі. Нат' і крыж не захацеў узьнясьціся над вежаю, а скромна прытуліўся і распасьцёрся на шэрым даху.

Званок. Адчыняецца прога ў цяжкой зялезнай браме. Вызірае „рыцар“ у форменай, з бліскучымі гузікамі, вопратцы. На каўняры—нашыткі зялёнага калёру—калёру надзеі, што і адгэтуль людзі выходзяць жывымі.

З бразготам зачыняецца прога. На вежы б'е гадзіньнік. Зычны звон вітае новых „жыхароў“. І тутака, як усюды, моц зяляніны і красак, на якіх крапіны толькі што прайшоўшага дождджу. Дрыжаць і скочваюцца з пахучых чаўхірак—быццам сьлёзы „жыхароў палацу“.

Ноч. Праз краты боязна ўзіраецца месяц. За высокім мурам рахочуць недзе жабы, а ў садзе грыміць салавей.

Як і там—на Бацькаўшчыне.

А думкі ймкнуцца высока і далёка. Заляцелі ў далёкае, далёкае мінулае. У мінулае людзей, выгнаных з сваей Бацькаўшчыны. У мінулае людзей, якія, седзячы на берагох рэкаў Вавілону і ядучы хлеб гаркое нядолі—і няволі, са сьлязьмі ў вачох пялі: „калі забудуся аб Табе, Сыон, няхай забудзецца мая правая рука“.

Яны не забыліся аб Сыоне і йзноў убачылі Яго. Няхай-жа счэзьне з памяці і мая правіца, калі забудуся аб Табе, мая Бацькаўшчына!

Думкі ймкнуцца. Вось яны над Вільняю, вось над сінімі хвалямі Нарачу, над срабрыстымі—Нёмнам і Дзьвіною; вось над магутнымі лясамі; вось над зялёнымі ніўкамі і—над страхою роднае хаты.

Месяц усьцяж узіраецца. Грыміць і млее салавей. Як на Бацькаўшчыне.

На вежы б'е поўнач. Гэта б'е сучаснасьць.

Гэй, Бацькаўшчына! Ці чуеш гэты звон? Ці пазнаеш у ім тугу і журботу свайго сына?

Пэўна ня чуеш, бо далёка.

Бацькаўшчына,—Ты мой Сыон!

**Міх. Нікіфароўскі.**

Май, 1928 г.

# Палітычнае жыцьцё.

## Польшча.

### Прыняцьце Соймам бюджэту.

12 лютага Сойм закончыў працу над бюджэтам, прыняўшы яго ў трэцім чытаньні. Гэтую цяжкую працу Сойм выканаў толькі ў паўтары месяца, бо-ж адзін месяц быў адняты дэкрэтам прэзыдэнта аб адкладзе склікаяньня сэсіі. Бюджэт мае выдаткаў 2.947.671.861 злотых, даходаў — 3.058.438.568 зл.

Такім чынам, бюджэт ня толькі ня мае недахопаў, але мае лішку 110 міл. 766.707 зл. На паперы, як бачым, усё гладка і добра.

Іншае пытаньне: ці гэты трымільярдавы бюджэт запраўды рэальны? ці ўдасца выкалаціць з насяленьня краю, зруйнаванага гаспадарчым крызісам, патрэбныя ўраду тры мільярды? У гэтым сумляваюцца амаль-што ўсе ў Польшчы, апрача хіба-ж толькі паноў з „Б. Б.“.

З гэтае прычыны ў Сойме да апошняга мамэнту ня было ведама ці знойдзецца большасьць пры канчальным галасаваньні, якая ўскладзе на Сойм адказнасьць за непамерна цяжкі для краю бюджэт. Дзьве гадзіны радзіліся перад галасаваньнем лявіцы й цэнтру, ці галасаваць за бюджэт у цэласьці, ці ўстрымацца, як устрымалася Эндэцыя, як устрымаліся меншасьці. Урэшце апазыцыя, ад якой зялежала пастанова Сойму, згадзілася „даць бюджэт ураду, але не... урадавай сыстэме, ці спосабу ўрадаваньня“... Так сфармуляваў пастанову апазыцыі пас. Недзялкоўскі, які заўсёды спрытна ўмее выйсьці з усялякага цяжкага палажэньня.

Апазацыя дала народныя грошы ўраду. Гэта значыць, што яна мае да яго даверра, а гэта йзноў-жа паказуе, што яна... не апазыцыя!

Сойм прыняў бяз зьменаў усе пастановы бюджэтных камісіяў—аб радыкальным зьменшаньні дыспазыцыйных фондаў ваеннага міністра, мін. унутраных спраў і інш.

### У ваеннай камісіі сойму.

У ваеннай камісі Сойму дасьпявае, можа, чарговы канфлікт Сойму з ваенным міністрам.

Справа у тым, што ў камісіі эндэцкі пасол Тромпчынскі падаў тэрміновы запрос аб масавых звальненьнях ахвіцэраў з арміі. Старшыня камісіі пас. Касьцялкоўскі, ведамы пілсудчык доўга не склікаў камісіі і ня ставіў запросу на павестку дня пазываючыся на тое, што яшчэ не атрымаў адказу ад міністра. Але-ж урэшце камісія сама паставіла запрос на чаргу дня. На паседжаньні 14/II камісія прыняла рэзалюцыю п. Лібэрмана, якая трэбуе, каб ваенны міністар яшчэ раз добра праверыў ўсе матывы звальненьня, усе скаргі ахвіцэраў і, у выпадку іх слушнасьці і нарушэньня закону міністрам, каб была папраўлена крыўда іхняя. Рэзалюцыя прынята большасьцю 15 проці 10 галас. Старшыня камісіі п. Касьцялкоўскі заявіў, што справа зьвальненьня ахвіцэраў—унутраная справа ваеннага міністра, што ня хоча прымаць участца ў нарушэньні ваеннай дысцыпліны і падрываць пашану да ўлады ў арміі, а таму зракаецца старшынства ў камісіі.

### Камісія для высьвятленьня выпадкаў 31-га кастрычніка 1929.

14 лютага адбылося чарговае паседжаньне камісіі, якая мае задачай высьвятліць ведамы скандал пры адчыненьні Сойму 31 кастрычніка, калі ў Сойм зьявілася група ахвіцэраў—рабіць „ганаровыя шпалеры“ для марш. Пілсудскага.

Камісія створана па пачыну „Б. Б.“, але, праўду кажучы, яна—мала патрэбна, калі ня шкодная. Апошняе паседжаньне паказала гэта вельмі ярка. Усё паседжаньне заняла дыскусія аб тым, ці аглашаць цалком, як дакумэнт, пісьмо марш. Пілсудскага да старшыні Рады Міністраў, ці не. Паслы з „Б. Б.“ дамагаліся, каб пісьмо канечне агласілі цалком, дый яшчэ і на адкрытым паседжаньні камісіі. Чаму? А таму, што ў пісьме гэтым (якое апублікавана ўжо ў газэтах уцэласьці) марш. Пілсудскі назваў старшыню Сойму Дашынскага—вар'ятам!.. Дык ясна, што трэбаваньне „Б. Б.“ мела на мэце проста зганьбіць п. Дашыньскага, і на гэтае дамаганьне старшыня камісіі адказаў тым, што адмовіўся ад свайго становішча ў камісіі... Пасьля гэтага трэбаваньне „Б. Б.“ было адкінена 5 галасамі проці 3. А тады сябры камісіі „Б. Б.“ заявілі, што выходзяць з складу камісіі.

### Варшаўскі дыплём эстонскаму прэзыдэнту.

Эстонскаму прэзыдэнту Штрандману Варшаўскі Унівэрсытэт даў дыплём пачэснага доктара—у часе візыты яго ў Варшаве.

Цікаўна, што ў дыплёме паны польскія пра-

